Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

TV плюс

7 – 13 красавіка 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 64 рублі
№ 14 (259)

Чытайце «РГ» у Internet: http://regionnews.promedia.minsk.by

## АДНА ЗЯМЛЯ

### НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 8 красавіка | | Нядзеля, 9 красакавіка | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уночы | 0 – +1°C | 0°C | 0°C | -1 – +2°C |
| Удзень | +3 – +4°C | +3 – +6°C | +2 – +3°C | +2 – +4°C |

ПАЧЫНАЮЧЫ З СЁННЯШНЯГА НУМАРА, ДА ПАСЛУГ ЧЫТАЧОЎ «РГ» –

# КАЛЯРОВАЯ ЎКЛАДКА З ТЭЛЕПРАГРАМАЙ

# Бярозавік пайшоў!

*МАЛАДЗЕЧНА. Пачынаецца нарыхтоўка бярозавіку. Пра тое, як ідзе вытворчасць у гэтым сезоне, расказвае начальнік цэха кансерваў з гародніны харчкамбіната* ***Яўгенія Амілаўская:***

– Па плане трэба будзе перарабіць 250 тон соку, які нарыхтоўваецца з Маладзечанскага і Валожынскага лясгасаў. Не апошнюю ролю адыгрывае надвор'е: калі вясна халодная – часу для нарыхтоўкі будзе больш, а пры цеплыні хутка з'явяцца пупышкі і сок стане непрыгодны для карыстання.

Выпускаецца некалькі відаў прадукцыі. Цяпер, калі сок чысты, у яго дадаем цукар (55 кілаграмаў на тону соку) і лімонную кіслату (2 кілаграмы на тону) – атрымліваецца "Сок бярозавы з цукрам".

Потым, калі сок будзе з прымесямі, дадаюцца канцэнтраты ці іншы сок. Будуць "Сок бярозава–яблычны", "бярозава–чарнічны", "бярозава–чарнаплоднарабінавы".

Асноўная тара – шкляныя трохлітровыя слоікі. Хаця скарыстаем і літровыя: няма грошай на закупку абсталявання для выкарыстоўвання ў якасці тары пластыкавых бутэлек. За суткі цэх можа перапрацаваць 16 тон сыравіны. У красавіку, хутчэй за ўсё, будзем працаваць і па суботах: вытворчая неабходнасць. Але гэта і добра, заработак будзе вышэйшы (за люты сярэдні заработак у цэху склаў 22 тысячы).

– Гэты карысны тавар павінен добра прадавацца, – гаворыць эканаміст па працы Іна Квяткоўская. – Трохлітровы слоік з сокам будзе каштаваць 470 рублёў (без знакамітага ПДВ), таму без затрымак плануем дастаўляць іх у гандлёвую сетку горада і вобласці. Акрамя соку, спажывец купляе яшчэ трохлітровы слоік, які можна выкарыстаць для сваіх патрэб. Дзякуючы вытворчасці соку, плануецца стабілізаваць фінансавае становішча. Хаця і без гэтага ёсць зрухі: замест "натуральнай аплаты", якая практыкавалася раней, заработак поўнасцю выдаем грашыма, ды і пакрысе ён расце.

Для Маладзечанскага харчкамбіната, такім чынам, кропля бярозавага соку з'явіцца прыбытковай. На 31 сакавіка камбінат выпусціў 26 тон прадукцыі. Але, прыкладам, 2 красавіка я абышоў некалькі маладзечанскіх магазінаў – бярозавага соку ў продажы не было.

***Юрый КАРПІЦКІ.***



*Упакоўшчыцы Наталля Сушко, Таццяна Лемантовіч і кладаўшчыца Вера Сташкевіч на складзе гатовай прадукцыі.*
ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.



*Бярозка расце ў Людвінове, Вілейшчына.*
ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

ВІЛЕЙКА

## Скінемся на сельскую гаспадарку

У сувязі з крытычным становішчам у сельскай гаспадарцы, вілейскае аддзяленне "Беларусбанка" і завод "Зеніт" выступілі з ініцыятывай аб добраахвотным пералічэнні віляйчанамі свайго дзённага заработку для падтрымкі сельскіх гаспадарак раёна. Ідэя знайшла падтрымку ў райвыканкоме.

Старшыня свабоднага прафсаюза "Зеніта" **Дзмітрый Абразцоў** гаворыць, што гэтае пытанне паўстала на канферэнцыі галіновага прафсаюза па прапанове дырэктара. На ёй было вырашана, што кожны з работнікаў у добраахвотным парадку сам будзе вырашаць, плаціць ці не.

Намеснік старшыні прафсаюза завода "Зеніт" **Таццяна Мышко** расказала, што скідаліся хто колькі мог, – па 300, 500 рублёў. А члены прафсаюза ахвяравалі ўвесь дзённы заработак.

***Аддзел інфармацыі.***

МАЛАДЗЕЧНА

## Адтэрміноўка пачалася

Пастановай Савета Міністраў калгасам і саўгасам прадастаўлена права адтэрміноўкі ў пагашэнні запазычанасці за спажыванне энергарэсурсаў. Да 10 красавіка калгасы і саўгасы павінны заключыць дагаворы аб адтэрміноўцы плацяжоў за электраэнергію з арганізацыямі, якія іх забяспечваюць энергіяй. Такія дагаворы пачалі заключацца. Старшыня калгаса імя Гастэлы **Пётр Атрошанка** гаворыць, што гаспадарка атрымала з "Мінскэнерга" тэлефанаграму з адпаведным распараджэннем, пасля чаго быў заключаны дагавор з Маладзечанскімі электрычнымі сеткамі.

Пагашэнне запазычанасцяў прадугледжваецца да 1 студзеня 2004 года. У першы год пагашаецца 10% даўгоў, другі — 20%, трэці — 30% і 2003 — 40%. Калі за спажыванне электраэнергіі не будзе заплачана, прадпрыемствы страчваюць права на паэтапнае пагашэнне агульнай запазычанасці і разлічваюцца па ёй з улікам пені ў памеры стаўкі рэфінансавання Нацбанка.

***Іван ШПАЛАЎ.***

ВАЛОЖЫН

## Гатовы да працы і абароны!

"Малой крывёю" далася ўладам і кіруючым кадрам Валожыншчыны абарона прагнозаў сацыяльна–эканамічнага развіцця раёна ў 2000 годзе. У многім таму, што становішча ў іншых рэгіёнах Мінскай вобласці мала чым адрозніваецца ад сітуацыі ў Валожынскім.

Тым не менш, доўгачаканае заключнае слова аблвыканкомаўскага чыноўніка **Сяргея Паўлюкевіча** пра тое, што адкладзеная на два месяцы абарона прымаецца, удзельнікі нарады ўздыхнулі з палёгкай – праляцела...

***Іван ЗВОНКІ.***

МЯДЗЕЛ

## Камп'ютэр для «Сельгастэхнікі»

60–годдзе адзначыла адна з буйных гаспадарак райцэнтра – мядзельская "Сельгастэхніка". Больш за чвэрць стагоддзя кіруе ёй **Рыгор Якубовіч**. З нагоды юбілею адбылося свята. Шмат падарункаў на ім атрымаў калектыў. Сярод іх нават і камп'ютэр. Адных карцін штук сем было.

***Алесь ВЫСОЦКІ.***

МАЛАДЗЕЧНА

## Школы чакаюць наступнага тыдня

Як сказала "РГ" выконваючая абавязкі загадчыка фінансавага аддзела гарвыканкома **Марына Бубен**, выплата зарплат бюджэтнікам пачалася па плане – з 3 красавіка.

Разлічыцца з бюджэтнікамі плануюць на наступным тыдні. Нагадаем, у мінулым месяцы зарплату пералічылі са спазненнем у 10 дзён. Аванс, па дамоўленасці, не выплачваўся.

***Аддзел інфармацыі.***

ВІЛЕЙКА

## Зарплаты бюджэтнікам не спозняцца

Крыху стабілізавалася сітуацыя з напаўненнем мясцовага бюджэту. Як запэўніў загадчык фінансавага аддзела Вілейскага райвыканкома **Тадэвуш Раманоўскі**, нягледзячы на цяжкасці з патупленнямі ў першыя 2 месяцы года, па выніках квартала бюджэт выконваецца. Таму з бюджэтнікамі плануецца разлічыцца ў тэрмін, без істотных спазненняў.

***Аддзел інфармацыі.***

ВІЛЕЙКА

## Чацверты віляйчанін на «Полі цудаў»

Вілейская "дыяспара" на "Полі цудаў" павялічылася да 4 чалавек. На мінулым тыдні ў гульні ўдзельнічаў старшыня калгаса "Чырвоны кастрычнік" **Анатоль Маркевіч**.

Трансляцыя перадачы будзе 13 мая. Анатоль выйграў адборачны тур і фінал. Хто наступны?

***Аддзел інфармацыі.***

## ЛІСТАВАННЕ

**Глыбока ўдзячны за магчымасць чытаць навіны з майго роднага Астравецкага раёна. Гэта шмат значыць для нас, амерыканскіх беларусаў: мець магчымасць сачыць за падзеямі на Бацькаўшчыне, асабліва, калі кожная назва і імя табе знаёмыя да слёз.**

**Я ў канцы красавіка буду ў Беларусі, абавязкова афармлю падпіску «Рэгіянальнай газеты» на маці і родных, бо вашая газета беларускамоўная, дэмакратычная. Менавіта такая, якіх вострa не хапае ў Беларусі. Жыве Беларусь!**

*Раман КАРДОНСКІ, старшыня Аддзела Беларуска–Амерыканскага заадзіночання ў Новай Англіі, ЗША.*

*РЭФДЭПО*

# Рэфдэпо перажывае не лепшыя часы

*МАЛАДЗЕЧНА. Рэфрыжэратарнае дэпо створанае ў 1985 годзе. У часы існавання Савецкага Саюза яно было ў росквіце, прыносіла добры прыбытак. Але нішто не вечнае.*



*Намеснік начальніка Маладзечанскага рэфрыжэратарнага дэпо па інфармацыі, кадрах і сацыяльных пытаннях Васіль Цюшкевіч.*

ФОТА ЮРЫЯ КАРПІЦКАГА.

– Асноўная задача дэпо – перавозка скорапсавальных грузаў, эксплуатацыя і рамонт ізатэрмічнага саставу, забеспячэнне бяспекі пасажырскіх і грузавых цягнікоў на пункце тэхнічнага абслугоўвання (ПТА), – гаворыць намеснік начальніка рэфдэпо па інфармацыі, кадрах і сацыяльных пытаннях **Васіль Цюшкевіч**.

"Рэфы" ажыццяўляюць дастаўкі грузаў ва ўсе краіны СНД і краіны Балтыі, заязджаюць па тавары ў Польшчу. У савецкія часы ў дэпо было 260 рэфрыжэратарных секцый, але 73 з іх аддалі ў Расію. Чаму?

– Рашэнне па раздзеле парка ізатэрмічных вагонаў было прынята дырэкцыяй савета краін СНД па чыгуначным транспарце, – расказвае галоўны інжынер рэфрыжэратарнага дэпо **Леанід Капля**. – Прынцыпам быў узяты сярэдні ўзрост рэфсекцый. Таму, каб "падмаладзіць" іншыя дэпо, іх адправілі ў Расію. Каб кампенсаваць страты, з Малдовы атрымалі 250 АРВ (аўтаномных рэфрыжэратарных вагонаў), якія ўжо не выкарыстоўваліся па прызначэнні. Каля 170 вагонаў прадалі прадпрыемствам РБ як стацыянарныя халадзільныя ўстаноўкі, астатнія закансерваваныя.

Да 1998 года рэфдэпо працавала больш–менш нармальна. Але ў канцы года рэзка знізіліся аб'ёмы. У лютым 1999 года аб'ём перавозак склаў, прыкладам, усяго 6% ад мінулагодніх. Радыкальныя меры, прынятыя кіраўніцтвам чыгункі, (у першым паўгоддзі рэфдэпо было на датацыі з упраўлення чыгункі) уключалі ў сабе пастаноўку пытання аб кансервацыі вагонаў і скарачэнні рабочых. Закансервавалі 90 секцый (засталося 100), за мінулы год скарацілі 260 чалавек. Гэтыя меры толькі знізілі магчымыя страты, і першае паўгоддзе дэпо скончыла ў "мінусе". Але ўжо ў другім паўгоддзі пачалі працаваць з прыбыткам. Агульная сума за год склала 28 мільёнаў дэнамінаваных рублёў. У другім паўгоддзі частку прыбытку кіраўніцтва чыгункі пакінула ў сябе.

Найбольш эфектыўнай мерай выхаду з крызісу Леанід Капля бачыць у гібкім падыходзе да работы:

– Стандартная секцыя ўключае ў сябе дызель і 4 вагоны. Па жаданні кліента колькасць вагонаў можна змяняць. Ёсць такія, што жадаюць, каб было 2 вагоны, а ёсць – каб 5. Дзякуючы гэтаму, мы набылі новых кліентаў.

**– І якая цяпер зарплата на прадпрыемстве?**

– Па дэпоўскім рамонце – 25 тысяч, на ПТА – 31 з паловай, механікі рэфсекцый – 50 тысяч рублёў. Зарплаты нізкія, таму нас пакідаюць работнікі. Трэба штосьці рабіць, бо хутка мы дойдзем да ўзроўню выплат у калгасах.

Шмат праблемаў стварае розніца курсаў. Камандзіроўкі бываюць да двух месяцаў, а 60% камандзіровачных у дэпо вымушаныя плаціць у рублях па курсе Нацбанка. Рабочыя, вядома, шмат губляюць на гэтым. Адзін час Белчыгунбанк у Мінску прадаваў "рэфам" валюту па курсе Нацбанка, але гэта працягвалася паўгода. Як вынік, за перыяд з верасня па снежань мінулага года звольнілася 55 чалавек.

**– Якія планы?**

– Плануем тэхнічнае перааснашчэнне ПТА. Уводзім новыя тэхналогіі, бо сёлета спыняецца выпуск фрэону–12, таму што ён разбурае азон. Будзе выкарыстоўвацца сумесевы холадагент. Заправілі ім адну секцыю, і цяпер яна праходзіць абкатку. На шчасце, калектыў разумее цяжкасці і пакуль трывае (на 1 лютага ў дэпо працавала 987 чалавек; параўнайце з 1700 на пачатку 90–х – **рэд.**). Каб атрымаць жыллё на прадпрыемстве, у чарзе, у сярэднім, трэба пастаяць 13 год.

Дадам, што сярэдні ўзрост работнікаў 40 год. Большая частка з іх мае вышэйшую адукацыю – а з банальнай спецвопраткай, мылам пастаяннае «напружванне».

Па звестках галоўнага інжынера, з 14 расійскіх дэпо засталося 5. Маладзечну яшчэ дапамагае выгаднае геаграфічнае становішча; прыбалтыйцаў выратоўвае іх стабільная валюта – у іх няма той блытаніны з курсамі. Хаця па якасці дастаўак маладзечанскае дэпо нікому з іх не саступае. Але цяпер іншыя краіны даюць ільготы сваім дэпо. Напрыклад, у Расіі практычна немагчыма загрузіцца, назад нашы секцыі ідуць паражняком. А тарыф на перавозкі немалы – 0,48 швейцарскага франка за вагонакіламетр гружанага складу. З нашай чыгункай кліенты разлічваюцца расійскімі рублямі.

Рэфрыжэратарнае дэпо ў крызісе, перажывае далёка не лепшыя часы. Калі раней яно лічылася прэстыжным у горадзе, уладкавацца "без знаёмства" на яго было вельмі праблематычна, то цяпер дэпо патрабуе дапамогі.

**Заканчэнне будзе.**

*Юрый КАРПІЦКІ.*

*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 30 сакавіка | 6 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 434,00 руб. | 443,00 руб. |
| Марка Герм. | 212,43 руб. | 217,93 руб. |
| Літ | 108,47 руб. | 110,73 руб. |
| Рас. руб. | 15,35 руб. | 15,43 руб. |
| Злоты | 106,11 руб. | 105,77 руб. |
| ЕЎРА | 415,47 руб. | 426,23 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 910 – 950 руб. | 920 – 950•руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 29.03 | 05.04 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 1050 | 1050 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3740 | 4490 |
| Сасіскі | 1 кг | 1150 | 939 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 710 | 700 |
| Рыс | 1 кг | 380 | 380 |
| Грэчка | 1 кг | 575 | 580 |
| Цукар | 1 кг | 275 | 265 |
| Алей | 1 л | 650 | 650 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 350 | 380 |
| Маянэз | 250 г | 150 | 150 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 300 | 300 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 240 | 230 |
| Лімоны | 1 кг | 895 | 880 |
| Апельсіны | 1 кг | 630 | 630 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 150 | 160 |
| Яблыкі | 1 кг | 350 | 350 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1000 |
| Тварог | 1 кг | 500 | 400 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 180 |
| Бульба | вядро | 800 | 700 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 430 | 430 |
| Морква | 1 кг | 300 | 250 |
| Капуста | 1 кг | 150 | 130 |

*РЫНАК*

## У сталіцы забаронены гандаль з машын

МІНСК. Па рашэнні сталічнага аблвыканкома, з мэтай упарадкавання і надання цывілізаванага выгляду гандлю на дзяржаўных рынках "Камароўскі", "Чыжоўскі", "Чэрвеньскі" і г. д. забаронены гандаль з машын.

Гэта самыя танныя "гандлёвыя пункты", бо тут і магазін, і склад, і спосаб дастаўкі, і нават офіс. Машыны–"магазіны" раз'язджаюцца па прыватных рынках "Ждановічы", "Заходні" каля ўніверсама "Талін", "Фрунзенскі" – плошча Прытыцкага (яшчэ будуецца), але ўсім месца не хопіць.

Магчыма, машыны з "Камароўкі" перабяруцца на пляцоўку каля Трактарнага завода (пытанне яшчэ вырашаецца). Калі рынак размешчаны ў іншым раёне горада, трэба па–новым зацвярджаць з ЦГіЭ асартыментны пералік тавараў і праводзіць гігіенічную экспертызу ўмоў рэалізацыі тавараў, а гэта каштуе 13360 рублёў і займае 2 тыдні.

А пакуль будзем чакаць, дзе вынырнуць самыя танныя ў краіне тавары.

*ТРАНСПАРТ*

# Напішыце рэальны расклад руху

*МАЛАДЗЕЧНА. Расклад руху аўтобусаў, які вывешваецца на прыпынках гарадскога транспарта, не вытрымліваецца. Можа, расклад ужо змяніўся?*

У аўтапарку №4 расказалі, што расклад руху складзены так, быццам па горадзе ходзіць 31 запланаваны аўтобус. На самой жа справе працуюць 23–25, таму некаторыя інтэрвалы "не закрываюцца". Прычыны: запазычанасць за паліва, няма запчастак (некаторыя аўтобусы прастойваюць толькі таму, што няма рызінавых пакрышак; цяпер патрэбна 60 колаў, коштам 130 тысяч рублёў кожнае). А расклад руху можна змяніць толькі па рашэнні гарвыканкома. А яго, як відаць, не прадбачыцца.

Між тым, навідавоку, што большая частка скаргаў з'яўляецца не таму, што аўтобуса няма, а таму, што пасажыры не ведаюць, ці будзе ён увогуле. Прасцей было б скласці рэальны расклад. Няхай аўтобусы ходзяць раз на паўгадзіны ці гадзіну, але трэба, каб расклад руху захоўваўся на ўсе 100%. Тады людзі, калі бачаць, што не паспеюць, ці выйдуць на работу раней, ці будуць дабірацца іншымі сродкамі, і праблем будзе значна лепш.

Намеснік дырэктара аўтапарка №4 **Віктар Руткоўскі** гаворыць, што сітуацыя з палівам на нейкі час стабілізавалася, запазычанасць паціху скарачаецца. Гарадскія аўтобусы будуць хадзіць "па графіку"?

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Малочная вайна на «Хітрушцы»

ВІЛЕЙКА. З надыходам вясны абвастрылася "вайна" паміж мясцовымі "малочнікамі" (звычайна, гэта жанчыны з навакольных вёсак) і санітарнай службай. Справа ў тым, што гандляваць малаком на "Хітрушцы" (міні–рынак каля ДК) забаронена. Тым не менш, "малочнікі" гандлююць на ўсю моц. У вайне ёсць пацярпелыя – гэта дырэктар рынку каапнарыхтпрама В. Кудзіна. Яе аштрафавалі за незахаванне правілаў гандлю.

– Што я магу зрабіць? – кажа яна. – У маім падпарадкаванні калгасны рынак, міні–рынак каля завода "Зеніт" і "Хітрушка". Бабулькі–малочніцы гуляюць са мной у кошкі–мышкі. Калі я на рынку каля ДК, яны хаваюцца за рог, калі мяне няма, яны зноў гандлююць. Не магу ж я быць адначасова ў трох месцах.

Пад гандаль малаком адведзены калгасны рынак. Для гэтага патрэбна мець ад ветэрынара даведку, што карова не хварэе на лейкоз і іншыя заразныя хваробы. Пасля чаго якасць малака правярае ветурач харчовай лабараторыі рынку. Каштуе гэта 55 рублёў, незалежна ад колькасці малака. Тут жа можна праверыць курыныя яйкі – да 50 штук – 55 рублёў.

У нядзелю ад 6–8 раніцы бойка ішоў гандаль малаком і яйкамі. Малако (1,5 літра) – 170 рублёў, 10 яек – 400–500 рублёў (у залежнасці ад велічыні).

На "Хітрушцы" дзяжурыла міліцэйская машына, таму "малочнікі" хавалі малако ў торбах. Выкладалі пустыя бутэлькі, ціха згаворваліся з пакупнікамі. "Вайна" працягваецца.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

*МЕРКАВАННЕ*

# Спадарожнік: час упушчаных магчымасцяў

*Аб справах на прадпрыемстве, якім раней ганарылася Маладзечна, мы пішам не ўпершыню. Сёння змяшчаем допіс нашага чытача А. Цадко.*

### Маладзечанскаму радыёзаводу «Спадарожнік» я аддаў 20 год, з 1976 па 1996.

Без перабольшвання гэта было вядучае прадпрыемства горада, якое давала занятасць значнай частцы яго жыхароў. Аднак асноўная вытворчасць завода была скіраваная на заказы сродкаў сувязі ваенна–прамысловага комплексу (ВПК), якія і давалі яму львіную долю прыбытку. Гэтая акалічнасць, на мой погляд, аказалася той "мядзведжай паслугай", якую ён атрымаў у сваю далейшую спадчыну.

Ужо напачатку 1994 года, у сувязі з вымушаным скарачэннем ваенных выдаткаў Расіі, выпуск прадукцыі ВПК завода стаў рэзка падаць, а аплата за прададзеную прадукцыю на працягу доўгага тэрміну затрымліваецца.

Я быў сведкам, як вокамгненна "клаліся на лапаткі" асноўныя спажыўцы нашай ваенкі – краснаярскія заводы КТЗ і РТЗ, на якіх не раз бываў у службовых камандзіроўках. Кіраўніцтва ж завода (магчыма, пры ціску ўрада), нягледзячы на значную ініцыятыву вядучых заходніх фірмаў, якія імкнуліся інвеставаць у прадпрыемства свой капітал, укараняць новыя віды прадукцыі і сучасныя тэхналогіі, у святле ваеннай калектыўнай дамовы, у якую ўвайшла і Беларусь, засталося вернае ВПК.

Памятаю, як на канферэнцыі працоўнага калектыву па прыняцці калектыўнай дамовы вясной 1994 года былы кіраўнік прадпрыемства, у сувязі з пераменай палітычнага вектара нашай краіны з нейтральнага на ваенны, абяцаў для "Спадарожніка" ледзь не Кландайк. Пераконваў, што нейтралітэтам масла на хлеб не намажаш. Але "абяцанкі–цацанкі, а дурню радасць". Шкада толькі, што дурнямі аказаліся мы, сотні высокакваліфікаваных рабочых і інжынераў. Чакаемых заказаў не было, завод каціўся ў бездань. У 1995–96 гадах, падчас выбараў у ВС 13–га склікання, калі нашы асноўныя краснаярскія спажыўцы ўжо "дыхалі на ладан", будучы дэпутат П. Краўчанка зноў выдае чарговую порцыю абяцанак пра новыя ўліванні расійскага капіталу на рахунак завода. На гэты раз па сумеснай антынатаўскай праграме. Што з гэтага атрымалася, вы ведаеце самі.

Неўзабаве пачынаюцца буйныя скарачэнні і ад працяглай "бяскорміцы" масавыя звальненні высокакваліфікаваных работнікаў завода. Затым узбуйненні, калі з 2–3 цыклаў стварыўся адзін, і замена кіраўніцтва. Але ўсё гэта – што мёртваму прыпарка.

Так на працягу апошняга дзесяцігоддзя быў упушчаны час на рэструктурызацыю прадпрыемства, наладжвання сумеснай работы з заходнімі радыёэлектроннымі канцэрнамі і фірмамі. А для гэтага на той час ўмовы існавалі: кваліфікаваныя кадры (чаго толькі варты В. Уласенка і яго вучні, не кажучы пра патэнцыял заводскага СКБ і рабочых зборачных цэхаў), наяўнасць адпаведных навучальных устаноў, танны кошт рабочай сілы ($200-300) і г. д. Не было жадання і волі тых, хто тады намі кіраваў.

*Алесь ЦАДКО, былы рэгуліроўшчык радыёапаратуры цэха №14.*

*ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА*

## Прадпрымальніцкі ўклад

СМАРГОНЬ. Летась тут пачалі работу яшчэ 7 камерцыйных прадпрыемстваў, і зарэгістравалася каля ста індывідуальных прадпрымальнікаў. Цяпер іх колькасць складае адпаведна 143 і 794.

65 малых прадпрыемстваў атрымалі прыбытак у суме 102447 тысяч рублёў; 10 – панеслі страты на 4878 тысяч. У бюджэт раёна камерцыйныя прадпрыемствы пералічылі 375 мільёнаў 673 тысячы рублёў падаткаў. Гэта складае 15,9% ад агульнай сумы паступленняў.

За год створана 1804 рабочыя месцы, у тым ліку, 38 з дапамогай дзяржаўнага фонду падтрымкі прадпрымальніцтва. Адкрытыя новыя мясаперапрацоўчы і вяндлярны цэхі, два дрэваапрацоўчыя.

*Павел МАКЛЮК.*

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

***Калі вясна здаралася ранняя, дрэвы пачыналі пакрывацца маладымі лісткамі, гром на зялёнае голле ўспрымаўся ў народзе як паказчык будучых поспехаў у жыцці і гаспадарцы. Пра гэта гаварылася і ў прыкмеце: "У красавіку грымот – цёплы будзе год".***

**7 красавіка – Благавешчанне.** На Благавешчанне дзеўка косу не пляце, птушка гнязда не ўе. Дождж у гэты дзень – прадвеснік важкага аржанога каравая, сухмень – на засуху.

**9 красавіка – Матруна.** На Матруну шчупак хвастом лёд прабівае.

## ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

# Галоднаму ў галаву нічога не ідзе



### Салата з бульбы і сасісак

***6 бульбін, 200 г сасісак, 150 г зялёнай цыбулі, 4 вял. лыжкі маянэзу, 1/2 мал. лыжкі цукру, зеляніна пятрушкі, соль.***

Бульбу "у мундзіры", сасіскі зварыць, астудзіць і парэзаць паўкружочкамі. Зялёную цыбулю дробна парэзаць і расцерці з цукрам. Усё перамяшаць, пасаліць і заправіць маянэзам або смятанай. Салату ўпрыгожыць зелянінай пятрушкі.

### Кілбаса, смажаная ў цесце

***500 г кілбасы, 2 яйкі, 3 вял. лыжкі мукі, паўшклянкі малака, 1 мал. лыжка алею, 100 г тлушчу.***

Кілбасу парэзаць скрылькамі таўшчынёй у паўсантыметра. Яйкі расцерці з мукой і паступова развесці малаком, дадаць алей. Цеста павінна быць гусцейшае, чым для блінцоў, і радзейшае, чым для аладак. Браць відэльцам скрылькі кілбасы, макаць у цеста і класці на патэльню з гарачым тлушчам. Падрумяненыя скрылькі скласці на талерку, пасыпаць зелянінай. Да кілбасы можна падаць бульбянае пюрэ, салату з квашанай капусты з цукрам, алеем і цыбуляй, любую салату з гародніны.

*Падрыхтавала*
*Наталля БРОЎКА.*

## НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

### Рыба жыве ў вадзе

У даверасноўскі перыяд (да 17 верасня 1939 года) заалогію ў мядзельская школе выкладаў дырэктар, былы афіцэр–пілсудчык Краўчын. Урок пачынаўся з таго, што заолаг моўчкі тыцкаў пальцам у грудзі вучня, даючы тым самым сігнал–загад, што трэба ўстаць і пераказаць вывучаную па падручніку тэму. Сам жа задуменна хадзіў паміж радамі партаў, і па выразе твара можна было вызначыць, што не кожны раз слухае вучня.

Аднойчы аднакласнік Ілья коратка расказаў вывучанае і, каб не маўчаць, пачаў гаварыць зноў тое самае спачатку. І так трэці раз...

Да дырэктарскага слыху даносіліся словы вучня, але той не ўлоўліваў сэнсу. Калі Ілья змоўк, дырэктар "прачнуўся" і даў высокую ацэнку ведам Ільі.

Пасля пайшло–паехала. Вучні пачалі практыкавацца, каб найбольш нагаварыць рознай бязглуздзіцы. Напрыклад, рыба жыве ў вадзе, у вадзе жыве рыба, жыве рыба ў вадзе. У нашым вадаёме водзіцца такая рыба (ідзе пералічэнне) і гэдак далей.

Калі такі смяльчак адказваў урок (спачатку некалькі сказаў павінны быць па тэме), яго таварыш па парце пільна сачыў за дырэктарам. Калі заўважаў, што той "прачнуўся", штурхаў суседа, каб гаварыў без выкрутасаў. Упусціў момант – падвёў сябра: дырэктар спыняецца каля стала,ківае пальцам і паказвае ў кут. Станавіся на калені.

У класе распачалося своеасаблівае спаборніцтва: хто праявіць красамоўства і выйдзе сухі з плавання паміж аднымі і тымі ж словамі, сказамі. Дзяўчаты, праўда, не рызыкавалі.

Хто не асмельваўся на такое, лічыўся ў класе мамкіным сынком, баязліўцам.

### «Што я нарабіла?»

Часам муж позна вяртаўся дамоў.

– Затрымаўся, бо па справах ездзіў па саўгасе, – тлумачыў.

Але найгорш было для жонкі, што не звяртаў на яе асаблівую ўвагу, не адказваў на яе заляцанні, быў стомлены.

А тут знаёмая з другога канца вёскі вазьмі ды скажы:

– Твой позна выходзіў з дома Ганны (яна была ўдава, жыла асобна ад дзяцей). Што яго туды прывабіла?

– Даражэнькая, высачы, як пойдзе да той блудніцы і пазвані мне. Нумар ведаеш?

Праз два дні сігнал трывогі паступіў. Разлютаваная кабета схапіла на панадворку кіёк і падалася, каб пакараць мужа і тую спакусніцу. У вокнах няма святла. "Значыць, цешацца ў ложку", – мільганула думка. Стукала–стукала ў дзверы, акно. Ніхто не падае голасу. Тады разгневаная кабеціна прымае рашэнне: б'е палкай па шыбах. Паляцела на зямлю шкло. Гаспадыня, нарэшце, уключыла святло, адчыніла дзверы і ўзняла лямант:

– Якая нячыстая сіла мяне пабудзіла? Гэта ты, Міхаліна? Чаму акно пабіла?

Ганна кінулася ў хату шукаць свайго мужа. Заглядала пад ложак, у шафу, у кладоўку.

– Хто дазволіў рабіць вобыск? – крычала гаспадыня. – Ты ж не міліцыянер?

Як толькі пачуўся першы стук у дзверы, начны госць па лесвіцы падаўся на гарышча, праз акенца ў шчыце саскочыў на зямлю і што было сілы пабег дамоў, распрануўся і ўлёгся ў ложак.

Жонка без поспеху "на паляванні" прыдыбала дамоў, а да яе муж з лаянкай:

– Дзе швэндалася? З кім бавіла час? Я дома, а яе, бачыце, няма.

Міхаліна, якая ўсвядоміла, што наклікала сорам на сябе пасля біцця вокнаў, загаварыла:

– Дарагі мой мужанёк! Нейкае зацьменне найшло на мае мазгі, палічыла, што ты падаўся да блудніцы Ганны. У гневе я пабіла ёй акно. Што цяпер рабіць? Злыя языкі...

– Бяры грошы ды шыбуй да Ганны. Заплаці за пабітае акно, прасі прабачэння. Я раніцой схаджу і знайду майстра, каб уставіў новыя шыбы.

Калі вярнулася з пермоваў з Ганнай, Міхаліна была такая пяшчотная, ні ў чым не пярэчыла свайму Петрыку.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

## ГАРАСКОП
## 10 – 16 КРАСАВІКА



**Авен (21.03–20.04)**

Калі ў матэрыяльнай і дзелавой сферы перыяд будзе адзначаны новымі дасягненнямі, то ў асабістым плане гэтыя дні вельмі супярэчлівыя. Вы можаце нават страціць нажытае пры "дапамозе" супрацьлеглага полу.



**Цялец (21.04–21.05)**

Калі вы доўга змагаліся з кімсьці, можаце сябе павіншаваць: усё скончылася. Надыходзіць час аднаўленых стасункаў і прызнанняў у каханні. У сацыяльнай сферы ўдача на баку прадстаўнікоў грамадскіх прафесій.



**Блізняты (22.05–21.06)**

Вы праявіце каварства і хітрасць, абгоніце на павароце сваіх нядобразычліўцаў і ўмацуеце матэрыяльнае становішча. Праявіцца таксама унутраная сіла і воля.



**Рак (22.06–23.07)**

Рамантычная прыгода з падарункамі можа выклікаць зайздрасць у навакольных, таму будзьце асцярожныя і захапляйцеся цішком. З іншага боку – умацаванне аўтарытэту, эмацыянальны пад'ём.



**Леў (24.07–23.08)**

Да 13 красавіка будзе доўжыцца паласа ўдач. Затым вы здасце свае пазіцыі і адсунецеся ў цень. 15 красавіка магчымая вестка або прыезд сябра. Вы таксама можаце адправіцца ў кароткае падарожжа.



**Дзева (24.08–23.09)**

Завяршэнне важных спраў і час для адпачынку – вось дэвіз надыходзячага перыяду. А вечарынка, якая намечаная на 13 красавіка, удасца на славу.



**Шалі (24.09–23.10)**

Вы зможаце дабіцца незвычайных вынікаў як у бізнесе, так і ў сардэчных справах: усё будзе адбывацца быццам само сабой. Аднак потым будзьце асцярожныя і не давярайце нікому.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

Вялікія ваганні і сумненні ў сабе могуць прывесці да праяўленняў істэрычнасці і гняўлівасці. Калі ў вас ёсць магчымасць, адыдзіце ад спраў на тыдзень.



**Стралец (23.11–21.12)**

Праявіцца акультная сіла такой ступені, што вашы жаданні могуць лёгка матэрыялізавацца, таму пастарайцеся не пажадаць каму–небудзь незнарок няшчасця.



**Казярог (22.12–20.01)**

Цяжкі перыяд, які нясе шмат перамен і вялікае пераасэнсаванне таго, што адбываецца. Ад вас могуць адвярнуцца сябры (або вы ад іх?). Многія сувязі здадуцца пустымі і непатрэбнымі.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Абмяжуйце кантакты і максімальна засяродзьцеся на ўласнай асобе. Магчымае з'яўленне не самых прыемных чутак пра вас. Хваравіты, апатычны стан. Лепш пазбягаць паездак за рулём.



**Рыбы (20.02–20.03)**

Добра адпраўляцца ў дарогу і заключаць дагаворы. Жаданне перамен можа прывесці да спрэчак у сям'і, але вы зможаце настаяць на сваім. Добра рабіць доўгатэрміновыя пакупкі, дрэнна – трымацца за кашалёк.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

– Капітан, я бачу, у вас кепскі настрой. Што здарылася?

– Я выйграў галоўны прыз у тэлевізійнай перадачы.

– Дык гэта ж добра!

– Каму як. Другі і трэці прызы – грашовыя, а першы – круіз на нашым цеплаходзе.



### Фразы

***Навошта напівацца і поўзаць, калі можна пакурыць і лётаць?!***

***Мінёр памыляецца тры разы:***
***1. Калі паступае ў сапёрнае вучылішча.***
***2. Калі бярэ шлюб.***
***3. У апошні раз.***

## ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

### Пра тое, як уплываць на людзей

Вядомы амерыканец Карнегі (прыгадайце хаця б яго знакамітую кнігу "Як заводзіць сяброў і ўплываць на людзей") мог бы адпачываць у наступным эпізодзе, які расказаў знаёмы, што працуе вахтавым метадам недзе пад расійскай Цюменню.

Самалёт. Рэйс мясцовы, што называецца, з Гадзюкіна ў Гадзюкіна. Перад пасадкай сцюардэса, як належыць, абвяшчае:

– Грамадзяне пасажыры! Прышпіліце рамяні бяспекі!

Народ, натуральна, пачынае выконваць прадпісанне. Але ў першым радзе дзяцюк "сем на восем, восем на сем" нахабна ігнаруе гэтае разумнае патрабаванне. Сцюардэса глядзіць на яго і паўтарае:

– Грамадзяне пасажыры! Прышпіліце рамяні бяспекі!

Рэакцыя зноў нулявая. Тады фраза паўтарэцца персанальна:

– Грамадзянін! Прышпіліце рамяні бяспекі!

У адказ чуваць абыякавае:

– Ды пайшла ты...

Дзяўчына, натуральна, крыўдзіцца і ідзе скардзіцца камандзіру экіпажа. Праз хвіліну–другую з кабіны пілотаў выскоквае камандзір (невялікага расточку, сухенькі і, да таго ж, картавы і шапялявы), хутка крочыць да дзяцюка і выдае наступны маналог:

– Музык! Вось ты сабе ўяві! Цяпег пг'ы пасадцы, калі я хоць кг'ыху пг'амазу паўз паласы, то самалёт г'эзка спыніцца, а вось ты паляціс далей. Баськой упег'ад. І вось ты пг'алятаес пег'шую пег'абог'ку (пачынае загінаць пальцы), дг'уг'ую пег'абог'ку, тг'эцюю пег'абог'ку і апынесся ў мяне ў кабіне. Пытанне: а на фіга ты мне там патг'эбны?!

Мужык МОЎЧКІ прышпільваецца. Салон "у адпадзе".

*Запісаў*
*Сямён РАБІНОВІЧ*

## КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*



**Па гарызанталях:** 5. Лекар-самавучка. 6. Самы дарагі чалавек. 9. Гулец футбольнай каманды. 11. Грыб-бярозавік. 12. Свойская жывёла. 13. Участак зямлі, на якім пасаджаныя дрэвы, кветкі. 18. Той, хто звязаны з кім-небудзь сброўствам. 19. Масавая народная гульня. 20. Вялікі прыгожы будынак. 23. Асобная частка чаго-небудзь. 24. Частка чаго-небудзь, якая засталася як лішак. 28. Пярэдняя частка галавы жывёлы. 29. Машына, якая прыводзіць у рух што-небудзь. 30. Уваход у хату ў выглядзе вонкавай прыбудовы. 32. Зброя для кідання стрэл у выглядзе гібкай дугі. 34. Вар. 37. Імя свойскай жывёлы. 38. Металічны кубак. 39. Павучанне, як пасупіць. 40. Птушаня арла.

**Па вертыкалях:** 1. Паношаная, старая вопратка. 2. Жвачнае млекакормячае з густой воўнай і рагамі. 3. Нашчадак вольных пасяленцаў на ўскраіне дзяржавы. 4. Прылада для пісьма, чарчэння, малявання. 8. Вядомая спявачка. 10. Будынак для захоўвання збожжа, мукі, прыпасаў. 14. Спартыўны калектыў. 15. Ахова. 16. Тое, што падаслана. 17. Наёмны сельскагаспадарчы рабочы. 21. Бязладны гул галасоў. 22. Паражэнне ў шахматнай гульні. 25. Той, хто едзе вярхом. 26. Разрад чаго-небудзь, прыкмета якасці. 27. Птушка сям'і крумкачовых з белымі пер'ямі ў крылах. 31. Паўднёвая расліна з вялікім авальным плодам. 33. Прылада для лоўлі рыбы. 35. Марка японскага аўтамабіля. 36. Вонкавае покрыва цела чалавека.

***Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №13***

1. Гута. 2. Сума. 3. Хата. 4. Харч. 5. Асяч. 6. Тога. 7. Атос. 8. Хада. 9. Хіба. 10. "Фіят". 11. Гаць. 12. Тата. 13. Адам. 14. Баба. 15. Афар. 16. Цура. 17. Табу. 18. Мыса. 19. Шыба. 20. Пара. 21. Рага. 22. Бана. 23. Сава. 24. Шопа. 25. Кроп. 26. Газа. 27. Пані. 28. Піва. 29. Пуга. 30. Уран.

## ПАВАРУШЫ МАЗГАМІ

### Лабірынт

Здарова былі! Паглядзім, як ты, наш шаноўны чытач, адолееш наступнае заданне рубрыкі для ўсіх узростаў. Тут крыху інакш прыйдзецца падступацца, чым з квадратам з мінулага нумара.

Трэба прайсці лабірынцік так, каб назбіраць 55 ачкоў.




Пакажы гэты маршрут – і ў цябе з"явіцца шанц на прыз ад "Рэгіянальнай газеты". **Адказы прымаюцца на паштоўках (!) да серады ўключна.** Варушы мазгамі!

### Падзялі квадрат (рашэнне)

А першае заданне не цяжкім падалося? Сапраўды, яно не вельмі складанае, калі толькі засяродзішся. Адзін з варыянтаў рашэння знаходзіцца справа.



Паварушы мазгамі і знойдзяшышчэ адзін варыянт (яго ўказвалі нашыя чытачы таксама). Правільна адказалі вучань 8-га "А" класа СШ №1 з Мядзела **Раман Місуна**, таксама васьмікласніца з Маркаўскай СШ Маладзечанскага раёна **Юля Ягеловіч**, маладзечанцы **Сяргей Рамановіч, Наталля Ганчар, Марына Рудзько**, а яшчэ **Мікола Ліннік** з Радашковічаў, сямікласніца з Маладзечна **Надзя Ахрамовіч, Мікалай Кавалевіч** з Вілейкі, **Сяргей Смалонскі** з Радашковічаў, віляйчанін **Дзмітрый Луцкі**, маладзечанцы **Раман Рай** з 8 "А" СШ №9 і **М. Ігнатовіч**.

А прыз выпаў на **Рамана Рая.** Рома, зайдзі ў рэдакцыю па прыз, які ты зарабіў галавою.

Да сустрэчы!

*Якім ПЯРЭЧКА.*

МЕРКАВАННІ

# Пакуль трэба голас трэніраваць

Неба зацягваюць хмары, і не відаць прасвятлення, горача, нібы перад навальніцай. Навокал акіян, а наша шлюпка гайдаецца пад націскам ветру, што то абрушыцца з Усходу, то пацягне з Захаду. Так і нясемся па жыцці. Хапаемся за што можна, каб утрымацца на плыву.

Вось, нарэшце, зачапіліся за Расію–Тытанік. Вялікая і магутная, багатая і з гучным імем, яна павольна апускаецца на дно: багацце расцягнулі, штурвал падзяліць не могуць. Даўгі накрылі з галавой, вось–вось затопяць. Даводзіцца трымацца за апошнюю валасіну – МВФ. Але ж выратавальных камізэлек на ўсіх не хопіць.

Так і плывем, падчапіўшыся на "матулю"–Русь. Толькі куды? Трохі пацішэлі палітычныя буры, на вёслах – усенародны любімец, які па слова ў кішэню не палезе. А без такіх – нікуды, асабліва ў плаванне. Бо хто ж будзе крычаць "SOS!" у апошні момант?

Толькі ў апошні, а пакуль трэба развіваць голас, бо раўці давядзецца доўга і моцна, каб якая–небудзь Амерыка ці Германія пачула. А гэта ж, вядома, прыктыкі патрабуе.

Трэба ўмець і зубы загаварыць, каб акрыліць народ надзеяй на заўтра, на тое, што яно ўсё ж такі надыдзе. Вечназялёная капуста яшчэ доўга будзе не па зубах беларускаму трусу. Але галоўнае ў любой крытычнай сітуацыі – не панікаваць. Вось і сядзім, сцяўшы зубы: чакаем лепшай долі. Можа, манна зваліцца з неба, а можа, Клінтан прыскочыць і адорыць золатам (а лепш, капустай, якую мы так любім). Самі ж прасіцца не будзем, бо аддаваць няма чым.

І "матуля"–Русь не працягне руку дапамогі ў цяжкую хвіліну: баіцца, што больш яе не ўбачыць. Ёй бы са сваімі праблемамі разабрацца.

Так і будзем павольна сунуцца, хістаючыся ў розныя бакі: можа, хто і ўбачыць. І ва ўсім згаджацца з капітанам, бо мы ж у адказе за таго, каго прыручылі.

*Вольга КАСЯКОВА,*
*11 клас СШ №11,*
*Маладзечна.*

КОНКУРСЫ

# Вольга Кедала – дзяўчына-2000

*МАЛАДЗЕЧНА. На ААТ "Белмастацкераміка" у Радашковічах прайшоў конкурс "Дзяўчына–2000".*

Конкурсная праграма ўключыла ў сябе прыгатаванне супербутэрброда і наступную яго рэкламу, конкурс прыпевак.

Адным з самых цікавых момантаў праграмы стаў конкурс "Грымёры". Канкурсанткам трэба было выбраць мужчыну з глядзельнай залы, загрыміраваць (за кулісамі), а гледачам, адпаведна, пазнаць персанаж. У выніку на сцэне быў і "Лопух" з "Операции "Ы", і Папандопула з "Свадьбы в Малиновке", і дырэктар фабрыкі музычных інструментаў у вобразе Карлсана. Прапелер на спіне, закасаныя штаны, слоік варэння падпахай і выраз "я самы абаяльны мужчына на свеце..." прывялі залу ў захапленне.

Алена Гараніна выбрала з залы для конкурсу дырэктара ААТ "БМК" Мікалая Кладава, які ў цюбецейцы і халаце шэйха прадэманстраваў на сцэне свае выдатныя артыстычныя здольнасці. Вакальныя, дарэчы, таксама: "Если б я был султан...".

Тытул "Дзяўчыны–2000" атрымала Вольга Кедала.

Яна працуе на ўчастку глазуроўкі цэха №2. У Радашковічы прыехала па размеркаванні пасля Віцебскага індустрыяльна–педагагічнага тэхнікума. Гэта першая перамога дзяўчат з "Керамікі" на такога роду конкурсах, якія праводзяцца штогод напярэдадні 8 Сакавіка.

*Надзея ЛІСАВА.*



Вольга Кедала.
ФОТА З АРХІВА «РГ».

КНІЖНАЯ МАЗАІКА

**"Несовершеннолетние в Республике Беларусь: основы правового положения, правовой защиты и ответственности. Научно–практический комментарий к законодательству и иным актам о несовершеннолетних"**. Выдавецтва "Тэсей". 5850 рублёў.

**"Статистика"**. Падручнік для сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. "Ураджай". 2500 руб.

**"Анализ хозяйственной деятельности в торговле"**. "Вышэйшая школа". 1260 руб.

**"Анализ хозяйственной деятельности в промышленности"**. "Вышэйшая школа". 975 руб.

**"Система информационного обеспечения управления"**. "Ураджай". 2210 руб.

**"Материаловедение"**. "Агар". 1180 руб.

**"Основы общей экологии"**. "Вышэйшая школа". 1010 руб.

**"Очерки истории Беларуси"**. "Вышэйшая школа". 1590 руб.

**"Кирилл Мазуров. Воспоминания, выступления, интервью"**. "Хата". 2340 руб.

**"Бацькаўшчына. Зборнік гістарычнай літаратуры"**. "Юнацтва". 407 руб.

**"Сімволіка гравюры Скарыны"**. "Беларуская навука". 541 руб.

**М. Танк. "Выбранае"**. "Мастацкая літаратура". 1650 руб.

**"Саморазвитие умственное, нравственное и практическое"**. "Універсітэцкае". 1020 руб.

**"Абранне вечнасці". Алена Яскевіч**. "Мастацкая літаратура". 1080 руб.

**"Танец з вужакамі. Выбранае". Алесь Разанаў**. "Мастацкая літаратура". 1490 руб.

**"Над чыстым полем". Алесь Жук**. "Мастацкая літаратура". 1680 руб.

**"Белая Русь. Гісторыя Беларусі ў легендах і паданнях"**. "Юнацтва". 886 руб.

**"Аповесць мінулых гадоў. Старонкі летапісу"**. ТАА "Кавалер паблишерс". 560 руб.

**"Сборник экзаменационных материалов по русскому языку за курс средней школы"**. "Экаперспектыва". 975 руб.

**"Сборник экзаменационных материалов по русскому языку за курс базовой школы"**. "Экаперспектыва". 858 руб.

**"Білеты па гісторыі Беларусі. 9 клас"**. "Унітэх". 546 руб.

**"Билеты по всемирной истории. 11 класс"**. "Унітэх". 546 руб.

**"Білеты па беларускай літаратуры. 11 клас"**. "Унітэх". 546 руб.

**"Билеты по русской литературе. 11 класс"**. "Унітэх". 468 руб.

**"Билеты по астрономии. 11 класс"**. "Унітэх". 390 руб.

*Кнігарня "Спадчына". Маладзечна, вуліца Прытыцкага, 7.*

ПАРАЛЕЛІ

# Англічанін Нік жыве дома. У Вілейцы

***Мікола Валынец, які ў 39-м пайшоў ваяваць, вярнуўся дадому толькі ў канцы 90-х. Аб лёсе Ніка Валынца, які нарадзіўся ў Каловічах пад Вілейкай і пражыў жыццё ў Англіі, гэтая публікацыя.***

**Зачанчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.**

## На святой зямлі

У Іране ўсё было падрыхтавана да іх сустрэчы: лазні, сталовыя, казармы. Тут склалі яны гару свайго абмундзіравання–рыззя, аблілі бензінам і спалілі. Вымытыя, паголеныя, у новенькай, з іголачкі, англійскай форме з польскімі пагонамі ды белымі арламі, яны самі сталі, як арлы: спачатку нават не пазнавалі адзін аднаго.

Затым іх перакінулі ў Ірак. Усё гэта рабілася для таго, каб у краіны Блізкага Усходу не ўварваліся немцы. Да нафты...

– У Канакіне, – прыгадвае Нік, – мы апынуліся, як у духоўцы: нясцерпная гарачыня летняй пустыні. Раніцой і пад вечар, калі крыху спадала спякота – ваенная вучоба: вадзіць машыны, умець ваяваць. Затым, праз месяцаў шэсць, мы перасяклі Іарданію і апынуліся ў Палесціне, бо немцы рваліся ў гэтыя краіны. Былі мы на ўзбярэжжы Міжземнага мора. На зямлі, дзе жыў Ісус Хрыстос. Тут убачылі, што такое рай на зямлі пасля ўсяго перажытага намі. Затым нас перакінулі ў Егіпет, дзе мы занялі пазіцыі па абароне Суэцкага канала: сюды рвалася нямецкая афрыканская армія Ромеля.

Але калі немцы з італьянцамі 13 мая 1943 года капітулявалі ў Афрыцы, яны ўжо палічылі, што і вайне канец, бо неўзабаве англа–амерыканцы выбілі немцаў з Сіцыліі, і Італія 25 ліпеня 1943 года капітулявала перад саюзнікамі. Але немцы нечакана ўварваліся ў Італію, былую сваю саюзніцу, і захапілі яе. Тады польскую армію пераправілі ў егіпецкі порт Александрыю.

– Нас, армію Андэрса, там пагрузілі на караблі і высадзілі затым у Італіі. У порце Таранта, пад самым "абцасам". І накіравалі ў самае крыважэрнае пекла – да Монтэ–Касіна. Там немцы ўмацаваліся сур'ёзна, трымаліся за гэтую пазіцыю зубамі. Нашы артылерыя і авіяцыя змялі з зямлі іх умацаванні. Тады мы – палякі, амерыканцы, англічане, канадцы, аўстралійцы і новазеландцы – пайшлі ў атаку. Нас сустрэў шквал нямецкага агню, бо яны спакойна ўладкаваліся за таўшчэзнымі сценамі манастыра, па якім мы агонь не вялі. Вядома, мы панеслі вялікія страты, а фронт не прарвалі. Тады ўжо паўторна артылерыя і авіяцыя саюзнікаў перамалолі ўсё жывое і ўсе ўмацаванні. І манастыр. Потым мы падняліся ў атаку і прарвалі нямецкі фронт, – узгадвае Нік. – Вайну я скончыў у Балоньі, прайшоўшы з баямі ўсю Італію з поўдня на поўнач. Яшчэ аж да 1947 года я служыў у Італіі ў Польскай Арміі: у Касарана, Мантына... Радзіма не захацела прыняць нас, сваіх сыноў, якія таксама змагаліся супраць фашыстаў.

## І «паляк Міколай» стаў англічанінам Нікам

Армію Андэрса прытуліла да сябе Англія. Пагрузіліся яны ў італьянскім Неапалі і праз Міжземнае мора і Атлантыку прыбылі ў Англію ў 1947 годзе.

– Выгрузіліся мы ў Шатландыі. Нашу армію расфарміравалі. Мы здалі зброю англічанам. І я, як і большасць былых аднапалчанаў, уступіў у англійскую армію. Праз год мне знайшлі работу, – расказвае Нік, – выдалі цывільную форму. Я пераехаў у горад Гудасфіл (Huddersfeld). Такі, як Вілейка, недалёка ад Манчэсцера. Там жыў і працаваў да самай пенсіі.

## Покліч Радзімы

Перад вачыма Ніка пастаянна і неадступна свяціўся і ззяў той лютаўскі дзень развітання з радзімай, з сям'ёй, з маладосцю. Залаты агністы круг сонца імгліў цудоўнымі вясёлкамі. Паабапал дарогі высіліся шыкоўныя бярозы, сатканыя з ажурнага срэбра. І крык дачушкі Ані, ад якога вочы рабіліся вільготныя і буйныя пякучыя гарошыны, цёплыя і шчымлівыя, каціліся па шчаках. Паехаць дадому? Той–сёй паехаў – і як у ваду... Напісаць? Даходзілі ў Англію паведамленні, што, каму напісалі пісьмы, тыя сем'і апынуліся ў Сібіры. Але ўсё ж рашыўся, напісаў вестку пра сябе і атрымаў адказ. Пасля смерці Сталіна (1953 г.) пачаў пісаць рэгулярна і пасылаць дочкам пасылкі. А начамі сон ніяк не ішоў, да яго і не суцяшаў змучаную душу. У сэрцы пастаянна звінеў той голас трывогі дачушкі Ані: "Татачка! Не пакідай!".

Рашыўся Нік у 1966 годзе паехаць на радзіму. Ён быў першы сярод аднапалчанаў, хто адважыўся на такі рашучы крок. Прыняў англійскае падданства – і ў Вілейку. Англічаніна, магчыма, не арыштуюць...

Дачушку Аню, такую родную і доўгачаканую, сваю крывіначку, сустрэў ля брамкі ў дварышчы. "Вылітая мама", – падумалася яму.

– Не–не, вы – не мой тата! – не прызнала яго дачка. – Мой тата малады, высокі, кучаравы, цёмнавалосы.

– Аня! Анечка! Гэта я твой тата. Мінула ж 27 год...

З дазволу міліцыі з'ездзіў у родныя Каловічы, у бацькоўскае гняздо. Але застацца у СССР не мог: сябры падумалі б, што яго затрымалі сілай. З гэтага часу пачаў дадому прыязджаць часта на 2 месяцы.

І толькі ў 1996 годзе склаў Нік свае рэчы – і ў Вілейку назаўсёды. Рашыў жыць на Радзіме, побач з дочкамі і ўнукамі, сярод родных і знаёмых. Зноў таптаць сцяжынкі дзяцінства і ўпівацца водарам родных ніў і лугоў.

## Гэта многіх цяжкі шлях

Чаму так падрабязна расказваю пра лёс Міколы–Ніка? Ды такім шляхам прайшлі многшія тысячы лепшых сыноў Беларусі. А падругое, нічым мы не горшыя за іншых. Нічым не саступалі Мікола Валынец і землякі–беларусы палякам, італьянцам, англічанам і іншым саюзнікам. А ў сіле духу, вытрымцы і працаздольнасці нават і пераўзыходзілі. А каб усё тое палатно, што саткаў у Англіі Мікола–Нік, ды Беларусі – мусіць, апрануў бы ён кожнага нашага жыхара. Атрымалася, што яго такія здольныя рукі дома толькі і маглі драбніць каменне да самага скону, каб так крута не крутануўся яго лёс.

Італія, у вызваленні якой ён удзельнічаў, узнагародзіла яго баявым медалём. Англія, з сынамі якой ён ваяваў поплеч супраць фашызму, ацаніла яго баявыя заслугі двума медалямі, дала і прытулак, і грамадзянства, забяспечыла і працай, і прыстойнай пенсіяй. Польшча, якую ён абараняў у верасні 1939 года і ў складзе войска якой ён затым служыў, аддзячыла двума медалямі і штомесячнай выплатай грашовай дапамогі. Польскае пасольства часта запрашае яго ў Мінск на сустрэчы ветэранаў–аднапалчанаў, на святкаванні знамянальных дат.

Усё так. І незлічоныя цяжкасці ваенных год, і мірная праца аплачаныя дастойна. Але ці магчыма кампенсаваць тыя маральныя і фізічныя страты, якія нанесла вайна? Ці вернеш загубленыя гады маладосці, цяжкую і працяглую разлуку з радзімай... Бязмежнае гора сям'і, асабліва дачок, якія гадаваліся без бацькі, цяпер нічым не кампенсуеш. А каб тую энергію, сілу, запал душы і сэрца ўклаў не ў разбуральны агонь вайны, а затым не ў развіццё і росквіт іншых краін, а сваёй? Не віна, а бяда тысяч і тысяч такіх, як Нік–Мікола Валынец, што былыя кіраўнікі былой краіны ўцягвалі нашу Беларусь у гіганцкія авантуры: наша Радзіма рабілася полем бою дзвюх сусветных войнаў. Дзесяць год нашых сыноў жэрла полымя Афганістана. Беларусь дзялілі, перакройвалі, рвалі на часткі... Ды і саміх людзей дзялілі на народ і ворагаў народа, якіх знішчалі сотнямі тысяч.

Колькі непапраўных бед усё гэта прынесла нашай Беларусі! І як цудоўна, што гэта ўжо ў мінулым. І мы ўсё больш і больш пачынаем цаніць найвялікшы наш здабытак – нашу незалежнасць, якая з'яўляецца гарантам таго, што падобныя цяжкія выпрабаванні на нас больш не абрынуцца.

*Аляксандр НАРКЕВІЧ.*



Мажыно.



Першы злева – М. Валынец. Італія.





Картка з апісаннем і станам М. Валынца. Узброеныя сілы Вялікабрытаніі.

ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА МІКОЛЫ ВАЛЫНЦА.

